Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 13 (26). Вільня, Серада, 17-га лютага 1926 г. Год II.

## Зьезд польскае меншасьці

### ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

Польская *меншасьць* у Заходняй Беларусі, якая, дзякуючы з боку падтрыманьню польскае ўлады, іграе тут роль „пануючае нацыі“, пачула сябе *нядобра*....

Запраўды-ж: уся казённая бутафорыя, якая імкнецца „замыдліць очы“ чужаземным госьцям і пераканаць іх, быццам наша краіна—гэта „чысто польска земя“,—можа „пераканаць“ хіба толькі адных гэных ветлівых гасьцей, якія-ж ня пойдуць, як зрабіў адзін „негжэчны“ чэх, на рынак і ня будуць прыслухівацца, у якой мове гаворыць тутэйшая „радзэнне-польска людносьць“. Але для тутэйшага польскага грамадзянства ясна, што—побач з „казённай“ культурай, тут зусім самастойна, хоць і ў падпольлі, разьвіваецца і з кожным днём крапчэе жыцьцё *беларускае большасьці* краю, што тут-жа кіпіць творчая культурная праца і сярод такое значнае і важкае ў краёвым жыцьці нацыянальнае групы, як жыдоўская. Апошнія-ж праявы ўсё цясьнейшага яднаньня беларускае працоўнае вёскі з працоўнымі мест Заходняе Беларусі адзначылі значны крок наперад у імкненьні беларускае большасьці вызваліцца спад дыктатуры польскае буржуазнае меншасьці аканчальна.

Польская буржуазія бачыць, што ані ніпічэньне беларускага школьніцтва, ані пазбаўленьне апекі права сьвядомых нацыянальна беларусаў, абвешчаных агулам „бальшавікамі“, ані польскія вайсковыя асаднікі, ані ўсе патугі польскае адміністрацыі і яе наймітаў спаміж беларускіх рэнэгатаў і здраднікаў—ніяк ня могуць спыніць беларускі нацыянальны рух, ня могуць зьнішчыць асаблівае аблічча нашага краю, які, кажучы славамі п Осмоловскага, прадстаўляе адно толькі „*мэханічна*, рамкамі дзяржаўнае арганізацыі, уведзеную ў суцэльнасьць польскага жыцьця правінцыю“. Польская буржуазія зразумела, што яе роль, паміма ўсяго падтрыманьня тут польскасьці дзяржаўнаю ўладаю, *канчаецца*. І вось яна пачынае думаць аб тым, як свае ўплывы ўмацаваць саматугам, незалежна ад усей казёншчыны.

З гэтай мэтай 6 гэтага лютага ў Горадні быў скліканы зьезд прадстаўнікоў польскае меншасьці Заходняе Беларусі (з украінскіх абшараў былі толькі два дэлегаты). Былі тутака прадстаўнікі ўсіх груп і кірункаў польскае палітычнае мысьлі—ад эндэкаў і абшарнікаў да польскае дэмакратычнае і сацыялістычнае лявіцы. Усіх іх аб'яднала пачуцьцё свайго *бяссільля* ў імкненьні *спольшчыць наш край*. Усе ехалі з тэй супольнай мэтай, каб расьцярушаныя ў розных партыях польскія сілы згуртаваць і *адзіным фронтам павясьці атаку на Заходнюю Беларусь*, якая йшчэ далёка не заваёвана польскай дзяржаўнасьцяй, хаця і далучана фармальна і фактычна да Польшчы.

На горадзенскім зьезьдзе дужа ярка выявілася акурат тое, аб чым мы тутака гаворым. Усе прамоўцы высказвалі пагляд, што, калі Польшча хоча мець нейкі ўплыў на беларускае (а таксама і ўкраінскае) насяленьне, дык павінна ня толькі ўсё браць у яго, але нешта і *даваць*. І тут першы раз выявілася нарастаньне новага нацыяналістычнага кірунку сярод польскае меншасьці ў Зах. Беларусі, які „Kur. Wil.“ называе „нэо-нацыяналізмам“,—кірунку, які хацеў-бы праглынуць наш народ ня ўціскам і гвалтамі, якія мы бачылі дагэтуль, але *ласкай*!

Другое, што гожа адзначыць з нарад зьезду, гэта таксама бадай аднагалоснае прызнаньне, што Зах. Беларусь нельга разглядаць, які некалькі „заходніх ваяводзтваў“, а гэта *зусім асобны край*, з асаблівымі варункамі жыцьця, асаблівым нацыянальным складам і сацыяльным укладам, з асаблівымі эканамічна-гаспадарчымі патрэбамі і інтарэсамі, якіх Варшава не разумее і ня хоча разумець. Дык вывад з гэтага — патрэба аб'яднаньня ўсіх тутэйшых палякоў, якія цяпер расьцярушаны па розных польскіх партыях, кіраваных варшаўскімі заправіламі, і стварэньня адзінага агульна-польскага краёвага цэнтру, які і прадстаўляў бы „опінію“ польскае меншасьці, з каторай Варшава мусіла-б лічыцца.

Але знайшліся адзінкі, якія свае лягічныя вывады з вышэйсказанага адважыліся давясьці да канца. Лявіца паставіла кропку над „і“ і выставіла *дамаганьне тэрытарыяльнае аўтаноміі для нашых „крэсаў“*. — Ведама, даклад аб гэтым грам. Сьвеховскага быў спатканы цэлым скандалам, а адпаведная прапазіцыя сэн. Каліновскага адносна да аўтаноміі была дружна адкінута зьездам, у выніку чаго сэнатары Каліноўскі і Карніцкая ды паслы Вэндзягольскі, Дубровнік і Гэльман з пратэстам пакінулі зьезд.

Ня гледзячы на выхад найбольш паважных прадстаўнікоў польскае лявіцы, зьезд сваё зрабіў: *польская буржуазія аб'ядналася* і стварыла камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі абшарнікаў, духавенства, эндэкаў, асаднікаў, пястоўцаў і „дэмакратаў“. Гэтак стварэньне адзінага польскага буржуазнага фронту трэба лічыць стаўшымся фактам.

У склад камітэту ўвайшло *15 палякоў*. Але, як мы сказалі, „нэо-нацыяналісты“ хочуць распачаць паход дзеля заваяваньня для Польшчы Заходняе Беларусі „знутра“ шляхам „ласкі“; дык зьезд пастанавіў ласкава пакінуць яшчэ *шэсьць мейсц для большасьці няпольскага насяленьня краю*.... Гэтак агульная лічба сяброў камітэту мае быць даведзена да 21.

Характэрная цыфра: акурат гэтулькі асоб мела быць у складзе літоўскае Тарыбы (Рады), калі пад нямецкай акупацыяй тварыўся зачатак Літоўскае дзяржавы. І ў гэнай Тарыбе літвіны—пад дыктоўку акупантаў!—таксама „ласкава“ прапанавалі беларусам... адно мейсца! Мелі і гатовага кандыдата на гэтае мейсца, які сяньня ў Коўне есьць літоўскі „ласкавы хлеб“. Але агульны сход беларусаў Вільні рашуча адкінуў літоўска-нямецкую прапазыцыю, і з гэтым голасам грамадзянства прымушаны быў лічыцца няўдачлівы кандыдат у сябры Тарыбы, які і адкінуў запрапанаванае яму становішча.

Але тады такі кандыдат знайшоўся сярод беларусаў *толькі адзін*. Польшча-ж багацей за тагочасную Літву, дык і кандыдатаў мае шмат балей...

* * *

З усіх выступленьняў учасьнікаў горадзенскага зьезду польскае меншасьці нашага краю асаблівае ўвагі заслугуюць два: гэта — даклады былых вышэйшых урадоўцаў з часоў першае польскае акупацыі ў Зах. Беларусі — паноў Осмоловскага і Сьвеховскага.

Праўда, дакладчыкі стаяць на розных пунктах гледжаньня ў пытаньні аб тым, як наладзіць жыцьцё Заходняе Беларусі **з найвялікшай карысьцяй для Польскае дзяржавы**. Але абодва далі вельмі многа цэннага матэрыялу, — цэннага тым балей, што абодва мелі магчымасьць у свой час добра пазнаць край і яго жыцьцё. Мы і пастараемся пазнаёміць нашых чытачоў з галоўнымі думкамі іх дакладаў.

### Даклад Ю. Осмоловскага.

Дакладчык перад усім адзначыў, што „Усходнія Крэсы“ (Заходняя Беларусь і ўкраінская Валынь) займаюць больш за трацiну ўсяго абшару Польскае дзяржавы—37% (142,802 квадр. кілям.), а насяленьне іх (—4,810,600 душ у 1921 годзе) прадстаўляе бязмала пятую частку насяленьня Польшчы, бо 18% яго. Але гэты прастор **толькі мэханічна зьвязаны з Польшчай:** ня гледзячы на істанаваньне тут значнае лічбы палякоў, перад Польскай дзяржавай стаіць вельмі цяжкое і нязьдзейсьненае дагэтуль заданьне: дайсьці таго, каб ня толькі палякі, але і ўсё насяленьне разам з імі „лічыла польскую дзяржаўнасьць **сваей** ня толькі розумам, але й сэрцам“.

Заданьне гэтае сустракае на сваей дарозе многа перашкод, якія дакладчык пералічае.

Перад усім культура **„навет тутэйшых палякоў“** астаецца на апошнім мейсцы, раўнуючы да ўсяе Польшчы.

Сярод народных масаў **няма перакананьня і веры** ў тое, што „польская дзяржаўнасьць зьяўляецца найлепшым забясьпечаньнем разьвіцьця і багацьця нашых зямель“.

Таксама і з пагляду на эканамічна — гаспадарчы стан нашага краю мы астаемся ззаду за другімі землямі Польшчы. І ўрад нічога ня робіць дзеля паляпшэньня гэтага стану. Наадварот: „выканаўчыя распараджэньні і цыркуляры з Варшавы часта **перакручываюць сэнс законаў** і ўтрудняюць урадаваньне—часта з шкодай дзеля праварадку, **для грамадзян** і для дзяржаўнае ідэі“.

Раз урад няздольны паправіць бяду, дык павінна ўзяцца за гэта польскае грамадзянства. Але—„вынікі выбараў у Сойм паказалі, што ідэалёгія польскіх партыяў (тых, што садзяць нам асаднікаў, пазбаўляюць зямлі і роднае школы! — *Рэд.*) зусім няздольна да згуртаваньня пад сваімі штандарамі вялікшых груп грамадзянства“ (натуральна!).

Дый польскае грамадзянства ня мае ніякае сутычнасьці з няпольскім насяленьнем краю, каб аказваць на яго „шляхотны ўплыў“. Ня могуць служыць дзеля гэтае мэты і самаўрады (—бо-ж гэта, як ведама, „фальварак пана старосты“)...

Вось дакладчык і запраектаваў цэлы рад мераў, каб перад усім вытварыць агульнапольскую „опінію“, якая ўплывала-бы і на мяйсцовыя ўрады (ваяводзкія рады), і на ўрад цэнтральны ў Варшаве, які не павінен падаваць ніякіх законаў у Сойм аб нашым краю, не паразумеўшыся з краёвай польскай „опініяй“. А тады і польскія ўплывы на „інародцаў“ шыбка пачнуць узмацоўвацца...

### Даклад М. Сьвеховскага.

Больш радыкальна падыйшоў да вырашэньня таго-ж пытаньня п. Сьвеховскі, які за свой радыкалізм і быў зьездам пазбаўлены магчымасьці дасказаць свае думкі да канца. І трэба сказаць, што абурэньне зьезду было... з польскага пункту гледжаньня зусім справядлівае: як можна дапусьціць, каб **паляк казаў праўду аб польскай палітыцы на „Крэсах“?!!!!!**

А вось што сказаў п. Сьвеховскі:

„У сучасным сваім складзе Польшча мае трацiну няпольскага насяленьня, якое густой масай засяляе палову зямель, падлягаючых Польшчы. І ў сучасных варунках немагчыма й думаць аб тым, каб можна было гаспадараваць у гэткіх абшырных краінах, як нашы беларускія і ўкраінскія землі, **без супрацоўніцтва ў гэным гаспадараваньні насяленьня, якое прадстаўляе большасьць на гэтых абшарах**“.

„Непрызнаваньне гэтае праўды давяло да таго **стану кіпеньня на ўсходніх землях,** у якім мы цяпер знаходзімся“.

„Польшча бяз творчага супрацоўніцтва ўсіх народаў, якія ў ёй жывуць, асабліва-ж украінцаў і беларусаў, **ня будзе ў сілах нармальна разьвівацца і ўзмацоўвацца**“.

„Неабходным варункам здабыцьця такога супрацоўніцтва мусіць быць **зраўнаваньне на дзеле ў правох** у дзяржаўным, грамадзкім і культурным жыцьці ўсіх нацыянальнасьцяў, якія ўваходзяць у склад Польскае Рэспублікі,—утварэньне варункаў дзеля **свабоднага і ўсебаковага нацыянальнага разьвіцьця іх**, а такжа дзяржаўнае апекаваньне іх гаспадарчымі і культурнымі патрэбамі. — Бо тое, **што ў гэтай галіне дзеецца цяпер,—гэта адно вялікае бяспраўе, загаданае зьверху, пакрыванае крывадушнымі фразамі.**—З гэтым бяспраўем **трэба распачаць рашучую і непрымірымую барацьбу**“.

Вывад дакладчыка—такі: трэба **для „ўсходніх**

**зямель" даць аўтаномію,** бо бяз гэтага **„немагчыма трывалае ўмацаваньне сувязі гэтых зямель з Польскай Рэспублікай".**

Не сумляваючыся ў шчырасьці пагляда ў, высказаных апошнім дакладчыкам, мы, на жаль, бачым у іх толькі.... пустыя гукі! Не ўваходзім у тое, ці цяпер ужо можна паправіць справу на „Ўсходніх крэсах" навет запраўднай — не папяровай!—аўтаноміяй: бо-ж мы ні на адзін мамэнт ня можам паверыць, каб польская дзяржава мела і волю і сілу, патрэбныя дзеля такое запраўднае „рэвалюцыі" ў яе дасюлешняй палітыцы. Сустрэча, якую на зьезьдзе спаткаў п. Сьвеховскі за тое, што асьмеліўся **толькі сказаць усё вышэй паданае,** найлепш гавора аб настроях польскае буржуазіі ў адносінах да нашага краю: **яе імкненьне— толькі ўмацаваць тут сваё панаваньне!**

І мы перакананы, што ў адказ на ўсе гэтыя добрыя пажаданьні больш культурных і дэмакратычных прадстаўнікоў польскага грамадзянства, як п. п. Сьвеховскі і сэнатар Каліновскі, пан міністар Рачкевіч... вытасыгнуе новыя крэдыты з сваіх „дыспозыцыйных сум" на куплю сярод беларусаў яшчэ некалькіх павлюкевічаў!...

---

Хто хоча мець штодзенную духовую страву, хто хоча што дня пачуць у сваей хаце цікавае і карыснае беларускае слова—хай купіць беларускі сьценны адрыўны календар. **Сьпяшайцеся!**

---

# Сойм.

## Інтэрпэляцыі ў справе бойні безработных у Калішу.

Апошняе паседжаньне Сойму пачалося з таго, што эндэцка-пэпэсаўская большасьць адкінула прапазіцыю п. Скрыпы (украінскі камуніст) адчыніць дыскусію ў справе бойні работнікаў у Калішу. Прычапіўшыся да фармальнасьці, Сойм разам з сваім маршалкам пазбавіў голасу пасла Скрыпу... Зроблена гэта было дзеля таго, каб даць голас у гэтай справе—„афіцыяльным абаронцам" работніцкай клясы ў Польшчы — п. п. пэпэсам. Дык зараз жа пасьля п. Скрыпы ўзяў голас пэпэсавец Гардэцкі і ў вельмі „карэктнай" форме прачытаў інтэрпэляцыю клюбу П. П. С. у справе здарэньняў у Калішу.

Пасьля „галантнай" прамовы Гардэцкага зараз-жа так сама „галанта" выступіў з адказам на інтэрпэляцыю П. П. С. міністар Рачкевіч.

Рачкевіч, зразумела, заявіў, што прычына калішскіх падзей — „антыпаньствовая агітацыя", што „ўрад робіць ўсё, каб аблягчыць долю безработных", што таксама „ўсё рабіў" калішскі Магістрат.. П. міністар сцьвярдзіў аднак-жа, што, апрача „камуністаў", вінаваты ў здарэньнях і староста м. Каліша, які будзе пакараны (— перавядуць на „крэсы"!). Далей п. Рачкевіч казаў, што „стрэльбы пачалі страляць самі сабой" — ад таго, што... каменьні з таўпы пападалі ў іх затворы... Прызнаўся і да таго, што паліцыянты стралялі ў народ, але—толькі ў ногі...

Што ж рабіла закліканае старостай войска, аб тым п. цывільны міністар, ведама-ж, не казаў нічога.. У канцы абяцаў, што суд разгледзіць усю справу—як арыштаваных „агітатараў", так сама і адстаўленых ад службы ўрадоўцаў адміністрацыі.

Пасьля прамовы міністра, Сойм урадавай большасьцю пастанавіў „прыняць да ведама высьвятленьне міністра—бяз дыскусіі"... Ці, проста кажучы,—абмяжаваўшыся высьвятленьнем страшэннай справы толькі з боку ўрадавага пасла-пэпэса і ўрадоўца-міністра, зачыніў рот апазіцыі, жадаўшай далей і глыбей раскрыць праўду.

Пастанова Сойму выклікала страшэннае абурэньне сярод апазіцыі. Але маршалак — зрабіў перарыў і—ўсё...

### Маёнтковы падатак.

Пасьля перарыву пэпэсаўцы, як хваліцца „Robotnik", мелі „вялікую перамогу" ў першай бітве аб законапраект аб маёнтковым падатку... Законапраект, які меў даравць абшарнікам і капіталістам Польшчы 600 мільёнаў злотых гэтага падатку, быў вернены назад у камісію... „Перамога"—у тым, што абшарнікі **падатку плаціць ня будуць,** бо законапраект будзе далей ляжаць у камісіі.. а якім ён выйдзе адтуль, зусім яшчэ няведама...

Наступнае паседжаньне Сойму адбудзецца аж 25 лютага. Трэба-ж паном паслом і бліноў паесьці спакойна, не сьпяшаючыся, са смакам, дый мець час іх ператравіць, каб не захварэць...

---

# Прамова

**дэпутата Бр. Тарашкевіча, (Сялянска-Работн. Грамады), сказаная на паседжаньні Сойму 12. II. 26 г. пры першым чытаньні Уставу аб натуральнай павіннасьці пры напраўцы дарог і мастоў сялянамі.**

Паны! Устаў гэты, здавалася-б, вельмі нявінны, але фактычна ўскладае на сялянства прыгонную павіннасьць у адносінах да дзяржавы.

І гэта затым, што ўвесь цяжар гэтага ўставу ляжыць перад усім на селяніне. Як папярэдні прамоўца, п. Галавач, выясьніў і ілюстраваў вельмі добрымі прыкладамі з жыцьця — пераважна „крэсавага",—абшарніцтва, маючае найболей багацтваў і зямлі, гэтай павіннасьці ў адносінах да дзяржавы не адбывае, але ўвесь цяжар яе падае на сялянства. І што ж гэты селянін мусіць даць дзяржаве, як падатак, з свае працы? А вось што: мусіць будаваць тэлефоны, вазіць тэлефонныя слупы, вазіць дзерава на масты, будаваць дарогі, перавозіць фураж, перавозіць войска, вазіць ўрадаўцаў і вучыцялёў, якіх накідае яму дзяржава дзеля апалячываньня.

Мушу зьвярнуць увагу яшчэ на адзін бок гэтага ўставу, а іменна на тое, што асаблівы цяжар яе падзе на г. зв. „Крэсы". Нідзе гэтак не зруйнаваны масты і дарогі, як на „Крэсах". Будуецца цэлы рад дарог і мастоў, патрэбных перад усім для войска і абароны граніц,—і вось „крэсавы" селянін мусіць нясьці цяжары, якія ў грунце рэчы зьяўляюцца цяжарам і агульна-дзяржаўнымі. І, значыць,—для „Крэсаў" гэты ўстаў зьяўляецца падвойнай крыўдай для селяніна—іменна для „крэсавага" селяніна.

Ясна, што на гэтакі ўстаў, які змушае селяніна да непамерных цяжараў, які змушае яго вазіць дзерава, дзе будзе рваць упраж, ламаць калёсы і вазы, будзе псуць свае коні, як гэта сёньня ў нас робіцца,—згадзіцца мы, як прадстаўнікі сялянства,—ня можам.

Мусім тут-жа падчыркнуць яшчэ адну вельмі цікавую асаблівасьць. А іменна тое, што ўстаў гэты ў апошняй форме зрэдагаваны і падпісаны социялістычным міністрам з П. П. С. (Польская Партыя Сацыялістычная),—п. Морачэвскім,—міністрам тае партыі, якая на нашых „Крэсах" выступае гэтак дэмагагічна і гэтак „папрыяцельску" фліртуе з сялянамі — пераважна на Палесьсі. З гэтага часу селянін будзе ведаць, як міністар з П. П. С. **ня думае** аб дабры гэтага селяніна і аб абароне яго інтарэсаў.

Будзем галасаваць проці гэтага ўставу, каб адкінуць яго ў першым чытаньні.

---

„Беларуская Ніва", адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

---

# Рада Лігі—і польскія дамаганьні.

12-га лютага сабралася на экстрэннае паседжаньне Рада Лігі Народаў.

Сьпярша гэтая Рада мелася толькі вызначыць час склікання надзвычайнага Агульнага Збору Лігі дзеля вырашэньня аднэй толькі справы: аб прыняцьці Нямеччыны ў склад Лігі.

Справа ўваходу Нямеччыны ў Лігу і адразу-ж на сталае мейсца сябры яе Рады была абгаворана і вырашана даўно, аканчальна зацьверджана ў Лёкарно. А толькі-што былі выпаўнены апошнія фармальнасьці з боку Нямеччыны—падачай у Сэкрэтарыят Лігі адпаведнай заявы.

Паводле „духу" Лігі Народаў, сталае мейсца ў яе Радзе могуць мець толькі вялікія дзяржавы, каб, згодна з сваімі „вялікімі" інтарэсамі, вырашаць усе сусьветныя справы. Гэткім чынам у Радзе, пасьля ўваходу Нямеччыны, не хапала-б толькі СССР дый Амэрыкі, калі ня лічыць вялікай бяспрэчна, але яшчэ нескансалідаванай Кітайскай дзяржавы. Так думаюць вялікія дзяржавы—сябры Рады Лігі.

Але-ж – як можна забараніць кожнай іншай дзяржаве лічыць сябе „вялікай"?

Як ведама, з усіх другарадных дзяржаў найбольш „буйна" хварэе на гэтую „манію вялікасьці" Польшча. Ужо сколькі разоў Польшча дабівалася папасьці ў Раду Лігі, але ўсё дарэмна: Англія заўсёды рашуча ставіла сваё „вэто" („не пазваляю"), дасьціпна кажучы, што тая дзяржава, якая мае гэтулькі „судовых спраў" у Лізе Народаў, як абвінавачаная, ня можа засесьці ў яе Радзе, як судзьдзя.

Аднак-жа, ня гледзячы на гэта і якраз у часе пачаўшайся, як сцьвярджаець амаль ня ўся польская прэса, катастрофы польскай дзяржаўнасьці і правалу ўсялякай „стабілізацыі" яе вартасьцяў,—Польшча ізноў патрэбавала сабе сталага, „стабілізаванага" мейцса ў Радзе Лігі. Польшча патрэбавала ў палітычнага органу гэтай міжнароднай апініі прызнаньня яе за сталую, „стабілізаваную", магутную нармуючую вялікадзяржаўную сілу першага рангу—нароўні з Англіяй, Францыяй, Японіяй, Нямеччынай, Італіяй, ня кажучы ўжо аб СССР і Амэрыцы.

Чаму-ж Польшча іменна цяпер гэтак рашуча пачала дабівацца для сябе гэтага мейсца? Вельмі проста: бо, раз туды ўвайдзе Нямеччына, дык адзін яе голас—згодна з статутам Лігі—можа раз назаўсёды зачыніць Польшчы доступ на сталае мейсца ў Раду Лігі. Такія справы там вырашаюцца аднагалосна, і пратэст навет аднае Нямеччыны ўжо адкідае польскую кандыдатуру.

Выбраўшы дужа благі мамэнт дзеля свайго выступленьня, Польшча пацярпела поўную няўдачу: кандыдатура яе у сувязі з уваходам у Раду Нямеччыны на толькі-што адбытай сэсіі Рады не разглядалася.

Як і можна было прадбачыць, Рада Лігі цалком прыняла ўжо гатовую, апрацаваную Чэмбэрленам (у „паразуменьні" з Брыянам) праграму, якую запрапанаваў сябрам Рады дэлегат Гішпаніі Квінонэс-дэ-Леон.

Рада абмяжавалася толькі назначэньнем дня Агульнага Збору Лігі і ўсталеньнем праграмы яго працы. Праграма гэта прадбачыць:

1) Прыняцьце Нямеччыны ў Лігу Народаў і **адначасна і разам—у Раду Лігі.**

2) Тэхнічныя справы ў зьвязку з уваходам Нямеччыны ў Лігу.

3) Аканчальны склад Лігі — **пасьля ўваходу Нямеччыны ў Лігу.**

4) Справу гмаху паседжаньняў Лігі.

Як бачым, гэтая праграма, якой ня можа зьмяніць ужо навет Агульны Збор Лігі, зьвязывае ўваход Нямеччыны ў склад Лігі з справай адначаснага прызнаньня для яе сталага мейсца ў Радзе,—проці чаго так страшэнна абурыліся польскія палітыкі, ды некаторыя з іх, як п. Строньскі з „Варшавянкі", „пагражалі" навет—выхадам Польшчы з Лігі Народаў зусім. Гэтая праграма сцьвярджае і тое, што „аканчальны склад Рады Лігі" будзе залежаць цалком ад голасу ўжо ўвайшоўшай у Раду—Нямеччыны.

Трэба думаць, што наагул „аканчальны склад Рады Лігі" (3 пункт праграмы) будзе адложаны на восень, як вельмі спорная справа. Але ці так, ці сяк, для Польшчы памысных вынікаў спадзявацца ў гэтай справе трудна!..

---

Ці прыдбалі Вы яшчэ аднаго падпішчыка „Беларускай Нівы"?

---

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### У Калішу.

„Robotnik" падае гэткія весткі з Каліша:

У месьце спакойна. Дапамога безработным выдавалася ўпарадку. Але на вуліцах места яшчэ ваенныя патрулі. Гмах Магістрату ўжо пакінуты войскам, але з прычыны зруйнаваньня — яшчэ нячынны. У месьце забаронены ўсялякія сабраньні, навет забавы.

### Аднадзенная забастоўка вуглякопаў.

Нарэшце ўзгарэўся даўно правакаваны выбух абурэньня работнікаў вугальнай прамысловасьці Дамроўскага раёну. Вугальныя прамыслоўцы, падыймаючы цану вугальля, ня толькі забываюць падзяліцца павялічанымі зыскамі з тымі, хто на іх працуець, але яшчэ наадварот,—змушаюць работнікаў падпісываць умовы і працаваць больш, як 8 гадзін у дзень, ламаючы гэткім чынам існуючы закон. Каб разьбіць еднасьць работнікаў, аб'яднаныя ў Раду прамыслоўцы даручылі сваім інжэнерам стварыць юдавы саюз „Праца Польска", з якім гэткая процізаконная ўмова мела быць падпісана. Але навет тыя юды ўрэшце агледзіліся, каб не адказываць перад судом дый не пацярпець ад караючай рукі клясовачэсных таварышоў. Каб настрашыць законам гэтых прамыслоўцаў, работнікі пачалі сьпярша падаваць на іх у суд за зламаньне абязваючага закону. Але буржуазныя судзьдзі пачалі штрафаваць вугальных магнатаў-багатыроў... па 10 злотых! Дык зразумела, што тыя ня спужаліся такое „кары" і ня спынілі сваей акцыі. Тады работнікі, навет і тыя юды, што маніліся сьпярша прадацца прамыслоўцам, змовіліся разам і абвясьцілі—як другую перасьцярогу—аднадзенную забастоўку... Адначасна работнікі выставілі рад трэбаваньняў, неспаўненьне якіх пацягне за сабой агульную забастоўку аж да пабеднага канца.

Плянова правакаваны буржуазіяй і стыхійна папіханы дзяржаўна-гаспадарчым развалам сучаснай Польшчы работніцкі рух усьцяж расьце... — Расьце, ня гледзячы на ўсе тыя спрытныя грэблі і запруды, якія ставяць на яго шляху нанятыя буржуазіяй—„сацыялісты".

### Пабіцьцё і забойства пэпэсаў у Лунінцы— паліцыяй.

Ратуючыя—за ўсялякую цану—эндэцкі ўрад у Варшаве пэпэсы даведаліся на сваім карку, што значыць паліцыя гэтага ўраду—на „крэсах".. Разьбіваючы разам з асаднікамі мітынгі беларускіх паслоў на „крэсах", пэпэсы даведаліся, што значыць „права сабраньняў" у нашых паліцэйскіх сатрапіях. Памагаючы паліцыі п. Рачкевіча лавіць у краі „камуністаў", папалі і самі ў лік гэтых апошніх... Так заўсёды бывае з тымі, хто ад сваіх адстаў (дый яшчэ і здрадзіўшы!), а да чужых ня прыстаў,—бо ведама-ж: паны слугамі карыстаюцца, але за стол іх ня садзяць..

Вось, што расказывае „Robotnik":

7 лютага адбывалася на Мерлінскіх Хутарох (Орскай гм. Столінск. пав.) паседжаньне Вясковага Камітэту П. П. С. Раптам у хату ўварваліся 6 азброеных паліцыянтаў („таварышоў у мундзірах", як нядаўна называў іх „Robotnik") і пачалі „разганяць" сход, страшучы стралянінай... Ведама-ж, паны пэпэсы пачалі ўцякаць.. Тады ў уцякаючых паліцыянты пачалі страляць і забілі аднаго з іх, Васіля Паховіча, а двух арыштавалі. Шмат, відаць, досталі „на арэхі"... Але найхарак-

арыштаваў Аўгустоўскага і ў яго кішані знайшоў пратакол. Але-ж адвакат Рундо просіць запісаць у пратакол, што сьведка Сташкевіч у сваім паказаньні ў сьледчага паказаў, што пратакол быў знойдзены ў памешканьні Аўгустоўскага пры рэвізіі, што пярэчыць яго паказаньню на судзе.

Сьведка вывядовец **Ібэль** сказаў, што ён Рукшу Казіміра ведае ад 1922 г.: пад час выбараў у Сойм Рукша выступаў і агітаваў за № 5; Рукша быў сьекрэтаром саюзу, кіраваў забастоўкаю рабочых і купляў білеты да Саколкі і Варшавы, але здаецца, што Рукша езьдзіў у Крынкі, а не ў Саколку і Варшаву.

Абвінавач. **Рукша** даў выясьненьне, што ён увесь час знаходзіўся пад надзорам паліцыі і „мэльдаваўся" кожны дзень у паліцыі II камісарыяту м. Горадні, што само ўжо гаворыць, што ён ня мог выяжджаць нікуды без дазволу ўлады, і ўсё тое, што гаворыць вывядовец Ібэль—беспадстаўна.

Характэрна паказаньне яшчэ вывядоўцы **Гутмана** з Лодзі, які заявіў, што атрымаў „гончы ліст" аб затрыманьні Сталярскага. Сталярскага ён ня раз бачыў у Лодзі на мітынгу, але-ж той выступаў пад псэўдонімам „Беластоцкі".

Абарона прадставіла суду афішы, з якіх відаць, што выступаў Сталярскі на мітынгу ў Лодзі ад партыі „поалейцыон" пад прозьвішчам Сталярскі; пазваленьне ад камісара м. Лодзі было дадзена на імя Сталярскага на мітынг перад выбарамі ў касу хворых; жыдоўскія газэты, дзе Сталярскі пісаў артыкулы пад літэратурным псэўдонімам „Беластоцкі" — і ўсе гэныя дакументы далучаны да справы, таксама яшчэ далучана выпісь з дамовай кнігі аб пражываньні Сталярсскага ў Лодзі пад сваім прозьвішчам.

Усё гэта зусім разьбіла паказаньні вывядоўцы.

На другі дзень працэсу пшодоўнік **Квецінскі** заявіў суду, што камандант Крынак Віттэр прасіў звольненага паліцыянта сьведку Здановіча, каб той не абвінавачываў абвіняемых дзеля таго, што іх шкада, аб чым ён, Квіцінскі, заявіў вывядоўцы Лісу.

На дапросе на судзе Здановіч заявіў, што ў пакоі сьведкаў камандант Віттэр гаварыў яму, каб ён, Здановіч, аблягчыў сваё паказаньне.

Вывядоўца **Ліс** заявіў, што яму аб гэтым сказаў пшодоўнік Квецінскі.

Камандант Віттэр выясьніў, што, калі ён прыехаў у Горадню на суд, і спаткаў яго вывядовец Ліс, то сказаў, каб ён у дзень суда, 21 студзеня зьявіўся на 8 гадз. дзеля нарады, каб паразумецца аб абвінавачаных падсудных. Але-ж Віттэр ня прыйшоў, і дзеля гэтага вывядоўца Ліс робіць помсту над ім. Затым, будучы раней на службе ў Горадні, Ліс заўсёды вымагаў ад Віттэра, каб той яму фундаваў, але-ж Віттэр ад гэтага адмаўляўся, што могуць сцьвярдзіць сьведкі з паліцыі. З гэтае прычыны вывядоўца Ліс стараецца як небудзь памсьціцца на Віттэру. Што датычыць заявы Здановіча, дык ён, Віттэр, у пакоі сьведкаў ніякай гутаркі з ім ня меў і нічога не гаварыў, ведаючы аб тым, што прыняў прысягу.

Рэшта сьведкаў абвінавачаньня ніякіх канкрэтных даных ня далі, і ўсе, пачынаючы ад першага і канчаючы апошнім, паказвалі на падставе даносаў канфідэнта Янкеля Копэля. Гены Копэль на груньце любві да абвінавачанай Добкі Леў, бойкі з Юткоўскім і выпрашываньнем грошай у жыхароў мястэчка Крынак, усіх гэных непакорных яму людзей упісаў на лісты асоб западазраных у камунізьме, і ўсе яны аказаліся арыштаванымі ў красавіку 1923 г., а чатыры асобы з Крынак былі абвінавачаны ў падпаленьні яго, Копэля, хаты і засуджаны даразным судом ў Горадні на вечную катаргу. А адзін з іх, Ахун, сядзіць на лаве абвінавачаных „32", гэта малады хлапец 16 гадоў.

Сьведкі абароны ўсе, як адзін, сцьвярдзілі, што вядомы канфідэнт Янкель Копэль кахаў Добку Леў і прасіў у яе рукі, але-ж яна яму адмовіла, і ён яе і ўсіх тых, хто быў знаёмы з ёю, гразіў пасадзіць у вастрог, што ён, Копэль, ня раз біўся з абвінавачанымі, пасьля чаго пагражаў ім арыштамі. Потым сьведка Аён сцьвярдзіў, як Копэль трэбаваў, каб ён даў яму грошы, і калі сьведка адмовіўся, дык ён абвініў яго, купца, у кражы каня, пасьля чаго сьведка і інш. з Крынак езьдзілі ў Сойм на скаргу. Была паднята справа за надужыцьце канфідэнтам Копэлем падпракурорам Дэссіным, і ён, канфідэнт, быў арыштаваны і звольнены пад залог, пасьля чаго ўцёк у Аргентыну. Сцьверджана сьведкамі што, Копэль гаварыў, што ён сам напісаў пратакол і падкінуў.

Падпракуратар падтрымоўваў сваё абвіненьне.

Абарона даказала беспадстаўнасьць абвінавачаньня, аснованага на правакацыі канфідэнта Копэля, праз якога трымаюць 32-х чалавек трэці год у вастрозе, хаця няма ніякіх матар'яльных доказаў.

Суд пасьля двухгадзіннай нарады **апраўдаў усіх абвінавачаных 32 чал.**, якія прасядзелі ад красавіка і пазьней 1923 г. **Нёман.**

✕ **Арышты.** 4-га студзеня 1926 г. ў 5 гадз раніцы быў зроблены вобыск у рабочага Сьцяпана Прусака. Пры вобыску нічога не знайшлі, але-ж Прусака арыштавалі.

✕ 13-га студзеня 1926 г. зроблены вобыск і арыштаваны сэкрэтар Бел. Дабрачын. Т-ва ў Горадні, Сяргей Ражкоўскі, рабочы табачнай фабрыкі ў Горадні. Пры вобыску нічога ня знойдзена.

✕ 14-га студзеня 1926 г. зроблены вобыск і арыштаваны Ян. Барада, рабочы табачнай фабрыкі ў Горадні. Пры вобыску нічога ня знойдзена.

✕ 14-га студзеня 1926 г. ў 6 гадз. раніцы зроблены быў вобыск і арыштавана Малка Атлас, сэкрэтарка табачнага саюзу. Шукалі антыпанствовай літэратуры, але-ж нічога не знайшлі.

# Карэспандэнцыі.

## Не прызнаюць.

(Нясьвіжскі павет).

Шмат хто чуў і ведае пра барбарскія паступкі нябожчыка войта гміны Жухавіцкае, Нясьвіжскага павету, пана Шкоды, марочыўшага головы грамадзянам беларусам пры заверцы дэкляраций. Але людзкае гора заўсёды балюча адрыгаецца на тым, хто зьяўляецца яго зачыншчыкам. Гэтак сталася і з Школаю. Ён думаў, што, калі не заверыць дэклярацыяў, дык беларуская асьвета загіне, але асьвета жыве, а згінуў Шкода...

Калі ня стала Шкоды, дык беларусы і падумалі: ану цяпер напішам, мо' і ўдасца заверыць. Першымі ўзяліся за гэта грамадзяне вёскі Лукі, Жухавіцкае гміны. Напісалі, падпісаліся і 19-га сьнежня пайшлі ў гміну завяраць.

Але тымчасовы войт, грамадзянін з вёскі Кожава, той-жа гміны, ня надта схваціўся за гэту працу, а адразу адрапартаваў, што інспэктар забараніў дэклярацыі завяраць. Грамадзяне наставілі вушы, — што за ліха, у беларускай газэце пішуць, каб падавалі дэклярацыі да 31 га сьнежня, а то інспэктар забараніў! Калі паўнамоцнік дзеля падачы дэклярацый, Сьцяпан Сак, пачаў да войта, пана Штыцька прыставаць, дык той сказаў, што сёньня будзе інспэктар і, калі Сак хоча дабіцца праўды, няхай пачакае. Грамадзяне, апусьціўшы голавы, пайшлі да дому, праклінаючы законы, сьвет і жыцьцё. А Сак астаўся чакаць інспэктара.

У 6 гадзіне ўвечары зьявіўся інспэктар. Калі Сак зьвярнуўся да інспэктара з запытаньнем, ці можна заверыць дэклярацыі на беларускую школу, дык той папанску і адпеў—„w bieżącym roku już niema na to rosporządzenia, wolno będzie tylko w roku przyszłym, w miesiącu marcu". Калі-ж Сак пачаў тлумачыць, што можна заверыць да 31-га сьнежня, дык пан інспэктар вельмі-ж сур'ёзна запытаўся, „A skąd to pan wie". Доўга не чакаючы, Сак дастаў з кішані інструкцыю і падае. Пан інспэктар пытае — „Skąd ona jest"?—З Беларускае Школьнае Рады"—адказвае Сак. „Białoruskiej Szkolnej Rady ja nie przyznaję" — адказаў інспэктар.

Выходзіць гэтак, што які-небудзь крышку большы панок ня можа прызнаць законаў Польскае Рэспублікі, бо ён мае „poufne" распараджэньне ад яшчэ большага пана, а той ад Станіслава... Беларус-жа лапці дзяры, але ведай, што не даждацца табе паляпшэньня жыцьця з гары,—чакай зьнізу...

Як відаць, аляксюкоўская „Школьная Рада" ў Наваградку сьпіць сабе мірным сном і толькі робіць від, што „надта працуе". Ня цікавіцца нешта нашымі школьнымі справамі і пан пасол з Наваградчыны Рагуля... **Хмурны.**

## „Змахалі грошы".

(в. Падстарыня, Баранав. пав.).

Калі да нашае вёскі „ўляцеў" легіяніст-асаднік з Баранавіч пан Махай і пачаў сваім языком махаць, абяцуючы сялянам (па закону аб асадніцтве і парцэляцыі!) усю зямлю паноў-абшарнікаў, нашы сяляне (ў вёсцы жывуць праваслаўныя і каталікі) кінуліся да Махая, плацячы яму сяброўскія грошы і купляючы ксёнжкі і партыйныя білеты, ды стварылі ў вёсцы камітэт П.П.С. Гэтак зрабілі і іншыя вёскі нашай гміны, як Вялікая і Малая Калпініцы і іншыя.

Махаі крыху зарабілі і паехалі сабе ў Баранавічы ды Лунінец. А сяляне, як людзі, што „заднім вумом разумныя", пачалі гутарку паміж сабой, успамінаючы ўсё, што аб зямлі і школе ім „намахаў" Махай. Радзілі-радзілі і да нічога не дайшлі. Аднак, некаторыя пастанавілі зьвярнуцца ў Баранавічы да беларусаў за вытлумачэньнем ім акцыі пана Махая. Там даталі „Беларускую Ніву", каб даручыць старшыням вясковых П.П.С-кіх камітэтаў, што было і зроблена.

Рэзультат: **камітэты** зьліквідаваліся, а сябры патрэбавалі ад п. Махая звароту заплочаных яму грошаў, каторых ён, разумецца, і ня думае варачаць. Дык, значыць, плакалі нашы грашакі.

Але ўва ўсім гэтым тое добра, што ў нашым павеце П.П.С., пасьля такога звароту рэчаў, спыніла сваю працу. Толькі ці на доўга? **Вясковы.**

## „Апякуны".

(В. Малаховічы, Ястрабскай гм. Баранавіцкага пав.).

Было, было, ды пагоршала!—Далі ў нашу вёску пастарунак паліцыі, каб намі „апекаваўся". З гэтага часу сяляне чуюцца, як зьвязаныя. А моладзь, якая бяз волі жыць ня можа, і вынясьці ня ў сілах! Улетку вечарынкі рабіць можна толькі да 12 гадзіны, а далей — дык разганяюць, тады як у месьце часта на абвестках бачыш: „скокі да 4 гадз. раніцы", а ты цярпі, вёска,—сьвет ня вольны!

Прычэпліваюцца гэтыя апякуны да людзей: у таго дошчачка ня так прыбіта, а ў таго ня ясна напісана, то што іншае.

Жыцьця вольнага няма!.. **Н.вы.**

## Беларускія кніжкі арыштоўваюць.

(В. Какошчыцы, Чэмерскай гм., Слонімскага пав.).

Смутна жывецца нашай вёсцы. Школы няма. У мінулыя зімы быў у нас польскі вучыцель, які, што праўда, толькі палітыкваў і з рэвальвэрам хадзіў, — цяпер, дзякуй Богу, і яго няма. Але моладзь цягнецца к сьвету; і вось зважыліся і выпісаліся з Вільні беларускіх кніжак; і чытаюць іх, носяцца, як кот з салам, заспакойваюць свой духовы голад. Але ня доўга гэтак было.

21-га сьнежня 1925 г. у нашай вёсцы хтосьці вывесіў чырвоны сьцяг. І тут-та зьявілася Азярніцкая паліцыя з камандантам Мінковічам. І пачаліся вобыскі і арышты. Арыштавалі: Ляваня Дабрыяна, Самсона Дабрыяна і Майсея Герашку з в. Шылавічы, які ў нашай вёсцы вучыўся выраблящь аўчыны! Пры вобыску забралі 16 беларускіх кніжак, газэту „Беларуская Ніва".—Бачыцё, людцы, за свой крывавы грош купілі—і тое забралі і зноў моладзь пакінулі ў цемры. Паліцыя кажа, што грошы не на кніжкі зьбіралі, але на сьцяг! І калі будзе праўда? **М. Хмурны.**

## Было дрэнна, а цяпер яшчэ пагоршала.

(З Слонімшчыны).

Чаго анно ня выдумалі, каб пагоршыць жыцьцё беларуса-бедака, каб выціснуць з яго апошні грош! Вось напрыклад, што цяпер прыдумала нейкая ўлада ў Слоніме: Калі хто з мужыкоў надумаець ехаць у места, дык яшчэ дома павінен паруціцца, каб мець у кішані 2о грошы заплаціць якіхсьці капытковых пры ўезьдзе ў Слонім. Ці едзеш да дохтара, ці зубы рваць, ці па лясьнічага, ці да млына, ці ў якісь суд, куды цябе выклікалі павесткай, усё роўна капытковых 20 гр. давай. Гэткага здарэньня яшчэ, як сьвет стаіць, у Слоніме ня было. Ці гэта на чыстату ў месьце бяруць?—але-ж Слонім ня надта так і чысты—бруду ў ім ёсьць досіць; ці мо' што Слонім мае стацца местам ваяводзкім, хто яго ведае...

Па канцох галоўных вуліц места што-дня стаяць якіясь ужэнднікі з квітамі розных коляраў. „Найздатнейшы" з іх якісь балаховец Калесьнікаў, які ад рана да вечара ходзіць па Ружанскай вуліцы і наганяець страх на бедных мужыкоў беларусаў.

Адно вялікіх паноў, якія езьдзяць на прыгожых брычках да на пары каней, балаховец звальняець ад капытковых. Мусіць, у іх каней капыты чысьцейшыя, ці што?

А калі хто надумае прадаць якуюсь кабылку на злотых 10, дык трэ' ведаць, што мусіць выцярпець. Уперад трэ' пайсьці да пана солтыса і ўзяць сьвядэцтва паходжаньня, за якое мусіць аддаць ажно 50 гр. Паехаўшы ў Слонім, павінен аддаць 20 гр. капытковых і 1 зл. за права пастою. І зьбярэцца разам ажно 1 зл. 70 гр., амаль ня трэцьцяя частка жывёліны. Так сама і за кароўку і за парсюка... а якое цяля, ці парася, дык 80 грошаў давай. За што?!? За тое, што змушаны прадаць жывёліну на падаткі.

А ня маеш грошаў—у места ня пускаюць. Праедзеш гвалтам, зараз дзівіцца ў дошчачку (для гэтага яны і выдуманы) пішэць у кніжку, а пасьля... пасьля пратаколы, штрафы, адседкі. **Чупрыновіч.**

## Паны хітраць

(М. Рось, Ваўкавыскага пав.).

Ёсьць у нас у Роскай гміне, Ваўкавыскага пату, вялікі абшарнік п. Браніцкі, у якога было аж 13 маёнткаў і 13 вялікіх лясных дачаў, але два маёнткі ўжо распарцэляваны паном асаднікам і дабравольцам. Але мусі чуе яго душа, што і рэшту ня ўдасцца яму адратаваць ад парцэляцыі, дык і кінуся ён на гэтакую хітрасьць: так як яго пожні вельмі добрыя і ўрадлівыя, бо знаходзяцца на ўзьбярэжжы рэчак, значыць—заліўныя, то і надумаў ён не папусьціць іх ні пад якую парцэляцыю, а дзеля гэтага выпісаў нейкага інжэнера-спэцыяліста, дый пачаў закладаць рыбныя промыслы, пакапаў усе гэтыя пожні на равы, панасыпаў грэблі, напусьціў вады, упусьціў туды, прывёзшы ў бочцы, па 5 рыбаў, дый вось табе і промыслы, і парцэляваць іх ужо ніхто ня маець права, бо гэта культурнае прадпрыемства. **Язэп Сумны.**

# З Радавае Беларусі.

## Беларускасьць і прафсаюзы.

Зьбеларушчаньне грамадзкіх установ у Радавай Беларусі, як гэта ні дзіўна, найбольш туга йдзе ў прафэсіянальных работніцкіх саюзах. Тут усё яшчэ непадзельна пануе „истинно-русский дух".

Мімаволі ўспамінаецца 1905 год, калі на адным мітынгу на заводзе Якобсона, пачуўшы першы раз беларускую прамову прадстаўніка Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады Ів. Луцкевіча, нейкі „всероссийский" эсдэк з абурэньнем крыкнуў:

„Говорите порусски, вы здесь не в театре!"

Словы гэтыя выклікалі тады шчырае абурэньне сярод работніцкае масы. Ня думаем, каб і цяпер маса блага адносілася да беларушчыны, бо-ж уся яна пераважна складаецца з дзьвюх нацыянальнасьцяў: беларусаў і жыдоў. Відаць, вінавайцаў трэ' шукаць сярод афіцыяльных павадыроў прафсаюзаў, якія, мусіць, недалёка адыйшліся ад гэнага „ўсерасейскага" эсдэка з 1905 году.

А за 20 гадоў многа зьмянілася! І пара ўжо розным „ўсерасейскім" зразумець, што Менск — гэта ж цяпер ня „русский губернский город", а сталічнае места Беларускае Рэспублікі!

Кожны беларус павінен чытаць, распаўсюждываць і заахвочваць другіх да выпісваньня свае газэты „Беларуская Ніва", якая няўхільна бароніць нацыянальныя і сацыяльныя справы беларусаў, і вядзе да зьдзейсьненьня нашых нацыянальных ідэалаў.

Рэдактар-Выдавец: Ян Марціноўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22